№28 КРАСАВІК 2013

Настаўнік.info

ІНФАРМАЦЫЙНА-МЕТАДЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ ДЛЯ НАСТАЎНІКАЎ

# ТЭМА НУМАРУ – "ДОБРЫ ЎРОК"



*Якім павінен быць добры ўрок? Мы прапанавалі адказаць на гэта пытанне настаўнікам, удзельнікам курса дыстанцыйнага навучання па актыўнай ацэнцы. Адказ можна было даць вельмі кароткі (1 – 2 абзацы), на ўсе гэтыя тры ці на адно з трох пытанняў.*

*1. Як Вы думаеце цяпер: у добрым уроку павінны быць элементы АА – ці гэта неістотна?*

*2. Што ў ім абавязкова павінна быць?*

*3. А чаго ў добрым уроку не павінна быць ніколі?*

*На мой погляд, атрымалася надзвычай цікавае чытво. І нядзіўна – гэта ж меркаванні найлепшых педагогаў-практыкаў Беларусі пра сваю формулу ідэальнага ўрока.*

### *Ірына Анціпава*

У добрым уроку абавязкова павінны быць элементы АА! Тады ўрок будзе цікавым, будзе развіваць здольнасці і магчымасці вучняў. Урок дае свабоду для мыслення, пошуку, аналізу, выказвання сваіх думак. Добры ўрок з элементамі АА вучыць самастойнасці і ініцыятыўнасці. На такім уроку будзе камфортна і настаўніку, і вучню.

### *Вольга Дзмітрачкова*

Так, на добрым уроку павінна быць АА.

Калі пачынаеш выкарыстоўваць асобныя элементы АА, то разумееш, наколькі ўсе яны ўзаемазвязаныя паміж сабою. Прымяненне методыкі АА ў цэлым, у сістэме, павышае эфектыўнасць кожнага яе асобнага элемента. Пастаяннае выкарыстанне АА дае вынікі: павышаецца цікавасць вучняў да вучобы, у іх з'яўляецца адказнасць за сваю працу на ўроку і дома, яны становяцца больш добразычлівымі і ўважлівымі адно да аднаго.

На добрым уроку не павінна быць абыякавасці і прыніжэння.

### *Ала Ярмак*

Мяркую, што добры ўрок гэта той, на якім дзеці ведаюць, да чаго трэба імкнуцца, як гэта трэба рабіць, чым можна карыстацца і з кім можна абмеркаваць тую ці іншую праблему.

Добры ўрок той, дзе дзіця адчувае сябе спакойна, свабодна і ўтульна, а настаўнік адыгрывае ролю сябра, дарадчыка, суразмоўніка.

Добры ўрок – гэта той, на якім дзіця робіць адкрыццё, атрымлівае веды амаль што самастойна.

Добры ўрок – калі вучня могуць ацаніць сябры, настаўнік і нават ён сам можа прааналізаваць сваю працу.

Добры ўрок – гэта карысны ўрок. Выходзячы з такога ўрока, адчуваеш асалоду, нейкі гонар за сябе і сваіх вучняў, а вучні – за сябе і свайго настаўніка. Мне здаецца, што добры ўрок – гэта ўрок з выкарыстаннем АА. І не асобных элементаў, а ўсёй стратэгіі цалкам, з першага да апошняга модуля. Канечне, зваротная сувязь настаўніка з вучнямі ў пісьмовым выглядзе на кожным добрым уроку не атрымаецца, але запоўніць якуюсь таблічку, каб адрэфлексаваць тое, што рабілася на ўроку, – можна і нават трэба. А бацькі павінны абавязкова пацікавіцца тым, чаму дзіця навучылася на ўроку.

На добрым ўроку ніколі не павінна быць абыякавасці настаўніка да выкладання матэрыялу, жорсткасці і непавагі да сваіх вучняў.

### *Вольга Пячонава*

Мне кажется, что в хорошем уроке обязательно должны присутствовать элементы АА:

1. Постановка целей и задач урока языком учащихся. Это делает урок доступным для понимания детей. Дисциплинирует самого учителя.

Учит детей самостоятельно ставить цели урока, удерживать цель на протяжении всего урока, соотносить свои знания, умения с поставленной целью.

2. Выработка критериев урока помогает вовлечь ребят в процесс оценивания.

3. Ключевой вопрос создаёт интригу, привлекает внимание к материалу урока, способствует развитию у учащихсяся познавательного интереса.

4. Самооценка и взаимооценка учащихсяся на каждом уроке – это гарантия адекватного оценивания детьми своих успехов и трудностей в процессе познания.

5. Работа в парах и группах позволяет учиться не только у учителя, но и друг у друга. Уча других, ребёнок совершенствует свои знания, умения и навыки.

6. Создание в классе атмосферы доверия, сотрудничества. Если ребёнку не комфортно в классе, то ему не до учебы.

7. Работа с родителями. Если учитель смог сделать родителей учащихся своими единомышленниками, помощниками, то это 90% успеха.

Хороший урок не должен быть перегружен материалом, сумбурным, суетливым, скучным. Но урок – не шоу, не отрепетированный концерт! Все задания должны быть чётко продуманы, соответствовать целям и задачам урока.

***Юлія Паўлава***

Які ўрок можна назваць добрым? Эфектыўным? Пасля таго, як я прайшла пілотны курс дыстанцыйнага навучання па АА, я з лёгкасцю магу адказаць на гэтае пытанне. Зразумела, галоўнае на ўроку – гэта дзейнасць саміх вучняў. Пачаўшы выкарыстоўваць на кожным уроку АА, я заўважыла, што актыўнасць вучняў узрастае з кожным наступным урокам, цікавасць да прадмета ўзрастае. А ці не пра гэта марыць настаўнік, рыхтуючыся да сваіх урокаў?

Зараз ужо ні адзін мой урок не абыходзіцца без фармулёўкі мэты ўрока на мове вучняў, НаШтоБуЗу, узаемнай ацэнкі ці самаацэнкі. Маім вучням вельмі падабаецца знаходзіць адказы на ключавыя пытанні, хаця я думаю, што яны патрэбны не на кожным уроку. Немагчыма да кожнага ўрока прыдумаць змястоўнае пытанне, каб прыцягнуць увагу вучняў. Лічу, што на кожным уроку абавязкова павінна быць зваротная сувязь!!! Гэта дыялог паміж настаўнікам і вучнем, які дапамагае ў працэсе навучання, дае магчымасць паверыць дзецям у свае сілы, павышае самаацэнку вучня!!! АА + прафесіяналізм настаўніка = глыбокія веды вучняў!

Настаўнік на ўроку павінен быць патрабавальным, але суровым – ніколі. Настаўнік павінен быць досыць сур'ёзным, выклікаць павагу, але ў той жа час вельмі добрым, умець падтрымаць і павесці за сабой дзяцей.

У працы не маем права

На роспач, на слабасць, на стому.

Наша пачэсная справа –

Жыццё адкрываць другому!

***Міхась Кудзейка***

Современный урок считается тот, где учащиеся не получают знания в готовом виде, а постигают их самостоятельно на основе решения проблемных, исследовательских, проектных задач. Роль учителя – создать среду, способную предоставить ученику возможность совершенствовать свои знания, умения и навыки. Урок не может быть продуктивным, если учащиеся не являются его активными участниками. Методы и приемы, предлагаемые АА, позволяют этот процесс сделать для учащихся понятным, доступным, осознанным, а значит, принятым. Методы и приемы АА тем хороши для нашей традиционной системы образования, что без больших изменений (конструкций, нововведений) позволяют учебный процесс сделать личностно–ориентированным, где учитываются способности, возможности и интересы ребенка. Использование элементов АА на уроке позволяет программировать успешность учебной деятельности и осуществлять ее коррекцию.

***Наталля Бартошык***

1. На маю думку, у сучасным добрым уроку абавязкова павінны быць элементы АА.

2. На ўроку абавязкова павінны быць, у першую чаргу, мэты, запісаныя на відным месцы. На кожным этапе ўрока настаўнік павінен разам з вучнямі звярнуцца да пытання выканання мэт.

3. Абавязкова павінны быць зваротная сувязь, узаемаацэнка або самаацэнка.

4. У сучасным добрым уроку не павінна быць бясконцага маналогу настаўніка, гультайства вучняў.

***Алена Казлова***

Урок – гэта яднанне душ настаўніка і вучняў, пры ўзаемаразуменні якіх адбываецца ўзаеманавучанне, узаемаразвіццё, узаемавыхаванне.

Кожны чалавек (нават калі яму ўсяго 11–16 ці ўжо 30–40 гадоў) – АСОБА, якая мае свае веды, захапленнні, каштоўнасці, мэты і многае іншае, таму пры канструктыўных узаемінах назіраецца ўзаемаабмен каштоўнасцямі і ўзбагачэнне ДУШЫ кожнага.

Прапаную ўласную формулу.

Паспяховы ўрок = падрыхтаванасць да ўрока + станоўчы эмацыйны фон, які пачынаецца са шчырай усмешкі, + праца–дзейнасць–вынік + задаволенасць сваёй работай на ўроку.

І абавязкова на кожным этапе: НАСТАЎНІК + ВУЧАНЬ!

Найлепшыя ўрокі – тыя, на якіх спрацоўвае прапанаваная формула.

А яшчэ своеасаблівым індыкатарам паспяховага ўрока з'яўляюцца фразы вучняў напрыканцы ўрока: «А што – ужо званок?», «Як хутка прайшоў урок!» (нельга забываць на тое, што 45 хвілін – своеасаблівая канстанта), «Дзякуй за ўрок!».

Магу адзначыць, што, прымяняючы актыўную ацэнку, на ўроках часцей чую такія фразы і адчуваю, што прымяненне гэтай методыкі робіць мае ўрокі толькі лепшымі.

***Таццяна Батура***

Цяпер, пасля знаёмства з АА, я не ўяўляю добры ўрок без НаШтоБуЗУ, без зваротнай сувязі. На добрым уроку вучні ведаюць, для чаго яны прыйшлі, чым будуць займацца, бо настаўнік дзеліцца з вучнямі сваімі мэтамі, якіх ён хоча дасягнуць разам з імі, вучні ўключаны ў працэс мэтавызначэння і бяруць на сябе адказнасць за сваё навучанне. А напрыканцы такога ўрока кожны вучань ведае, чаго ён змог дасягнуць, чаму навучыўся – а над чым трэба яшчэ папрацаваць, у якім кірунку рухацца далей, каб палепшыць свае вынікі. Добры ўрок – гэта ўрок адкрыцця новага, урок, на якім створана атмасфера супрацоўніцтва, узаеманавучання і ўзаемадапамогі, урок, на якім няма месца абыякавасці і раўнадушшу,

страху перад атрыманнем дрэннай адзнакі.

***Алена Канановіч***

Канешне, павінны быць у добрым уроку элементы АА. На маю думку, абавязкова павінны быць мэты ўрока і мэты на мове вучняў, НаШтоБуЗУ, зваротная сувязь. Добра, калі будзе ключавое пытанне. У канцы ўрока (а калі магчыма, і ў сярэдзіне) абавязкова правяраць дасягненне мэтаў урока вучнямі (прамежкавая і выніковая рэфлексія, розныя віды самаацэнкі і г. д).

***Іна Шымко***

Выкарыстанне методыкі актыўнай ацэнкі дазволіла вызначыць прыярытэтныя элементы, якія павінны быць абавязкова на добрым уроку. Гэта – мэта на мове вучня, НаШтоБуЗУ (у выпадку, калі яны не супадаюць), работа ў парах, зваротная сувязь. Упэўнілася, што дакладная мэта і канкрэтныя крытэрыі яе дасягнення працуюць на станоўчы вынік урока, бо зразумелыя для вучняў, і яны ведаюць, у якім кірунку рухацца, што неабходна ведаць у канцы ўрока. Абмеркаванне пытанняў у парах спрыяе ўзаеманавучанню, здымае эмацыйнае напружанне. (Мяне радуе, што мае вучні «гудзяць» ужо смялей на ўроку і нешта даказваюць, расказваюць адно аднаму).

Каб урок быў добрым, настаўнік не павінен увесь час рабіць акцэнт на памылкі вучняў, а больш заўважаць поспехі, нават самыя нязначныя, даваць падказкі, як палепшыць свае вынікі. Гэта дазваляе зрабіць зваротную сувязь, якая паказвае і настаўніку, і вучням, над чым неабходна працаваць яшчэ. Мне падабаецца, што зваротная сувязь таксама дакладная і канкрэтная: калі ёсць памылкі, то настаўнік робіць падказкі, як іх выправіць; калі пахвала – называецца, канкрэтна за што. Калі выкарыстоўваць у сістэме ўсе элементы актыўнай ацэнкі, то гэта дасць добрыя вынікі.

***Алена Сеген***

Актыўная ацэнка мае шмат пераваг, ствараецца атмасфера дружалюбнасці, супрацоўніцтва, таму, я лічу, на добрым уроку элементы АА павінны быць абавязкова.

На добрым уроку павінны быць эмацыйныя разрадкі, змена відаў дзейнасці, гульнёвыя размінкі. Вучань павінен знаць, для чаго яму гэта трэба ведаць.

А не павінна быць на ўроку ніколі маналогаў настаўніка, яго павышанага тону.

3. Не должно быть навязывания чего–то, что непонятно детям, не должно быть непосильных заданий для всего класса. Не должно быть психологического дискомфорта. Урок не должен заканчиваться так, чтобы ребенок не мог понять, что он делал и для чего.



***Ганна Кавалёва***

Может быть – это только моё мнение, но в хорошем уроке обязательно должны быть – цели учителя и ученика, НаШтоБуЗУ, критерии оценки, самооценка и взаимооценка.

***Алена Гаўруковіч***

1. Эффективный урок – это тот урок, в котором достигнута цель, когда дети получили определенное приращение предметное или надпредметное. АА направлена на то, чтобы цель урока была достигнута, поэтому эффективный урок должен содержать АА.

2. На мой взгляд, в хорошем уроке должно быть:

1. Актуализация опорных знаний.
2. Постановка цели, понятной для детей, желательно, чтобы цель выходила из некоторой проблемы и была сформулирована самими учащимися.
3. Методы и средства направлены на достижение целей, которые делают урок для ребенка интересным.
4. Обратная связь на протяжении урока.
5. Диагностика целей.

***Аляксандра Брыкава***

Хороший урок – это сотрудничество ученика и учителя, активный обмен знаниями и опытом между учениками, это удовольствие учеников от саморазвития и удовлетворенность учителя, который достиг не только собственные цели, но и стал проводником для своих учеников к их результатам. По–моему, хороший урок равен «активному» уроку, уроку, где ученики работают с полной отдачей, уроку, на котором задают и находят ответы на волнующие вопросы, урок, по окончании которого, как сказала моя польская коллега, «устают ученики, а не учитель», и устают в хорошем смысле этого слова, не от праздного сидения и пассивного поглощения информации, а от умственной нагрузки, от работы мысли. Я считаю, что все элементы активной оценки должны быть представлены на хорошем уроке: ученики должны знать цель учителя и понимать свои собственные цели, понимать средства их достижения и предполагать будущий результат урока и его необходимость, каждый ребенок в классе должен быть принят и не должен бояться ошибиться, на хорошем уроке должны присутствовать ключевые и стимулирующие вопросы, обратная связь от одноклассника и учителя, обязательный самоконтроль.

*Эла Якубоўская*

Я думаю, что в хорошем уроке обязательно должна быть мотивация детей на учебный процесс. И ответственность за процесс обучения должны разделять оба его участника: и учитель, и сам ученик. В стратегии АА есть все условия для реализации данной идеи. Сильнейшая вещь в АА это наличие обратной связи и выставление критериев успешной деятельности. Меняются отношения детей к процессу обучения, появляется личная заинтересованность. Для меня интересным моментом стала постановка ключевого вопроса. Это здорово, когда зажигаются глаза детей неподдельным интересом, и урок проходит на одном дыхании, потому что просто интересно узнать ответ. Хороший урок может и не содержать элементы АА. Но если они присутствуют на уроке, то он, скорее всего, будет хороший.

На хорошем уроке не должно быть работы учителя за детей, хотя это возможно быстрее и легче. Лучше чуть подождать и услышать ответ ученика, чем самому дать готовый и помчаться дальше по материалу и опять давать ответ на вопрос, который дети в общем–то не задавали.

*Людміла Марціна*

В хорошем уроке обязательно должны быть элементы активной оценки. Но необязательно все. Считаю, что обязательны цели на языке учащихся, критерии оценки и самооценка. Но терпеть не могу уроки–шоу. Все–таки детей нужно приучать к тому, что урок – это серьезная работа, а не игра.

*Галіна Скарына*

Добры ўрок – гэта той, напрыканцы якога настаўнік адчувае, што мэты ўрока дасягнуты, што веды вучнямі засвоеныя і трывала замацаваныя ў памяці дзяцей. Добры ўрок той, на якім дзеці пачуваюцца камфортна, працуюць у асалоду і пасля якога ім хочацца вучыцца. Менавіта элементы АА даюць настаўніку ўсведамленне, наколькі мэты дасягнуты, а вучню забяспечваюць разуменне, што адказнасць за якасць яго ведаў нясе не толькі настаўнік, а і ён сам. Таму я за элементы АА на ўроку.

Што павінна быць абавязкова на добрым уроку – залежыць ад настаўніка. У каго што лепш удаецца, да чаго ляжыць больш душа. Але абазначэнне мэтаў урока – гэта найперш. Каб чалавек змалку вучыўся ставіць перад сабой задачы і вызначаць шляхі іх дасягнення.

А чаго ніколі не павінна быць на ўроку, дык гэта абыякавасці. Як у вучняў, так і ў настаўніка. Абыякавасць вядзе да раўнадушша, а раўнадушша – да лені і безадказнасці. Не дай Бог на жыцёвай дарозе сустрэць лянівых і безадказных людзей.

*Алена Ластоўская*

Лічу, што ў добрым уроку абавязкова павінны быць элементы АА, таму што адразу мяняецца асяроддзе ў класе, адносіны вучняў да працэсу навучання.

Добры ўрок – гэта педагагічны твор, дзе мае сола не толькі настаўнік. Таму на ўроку абавязкова павінна быць узаемная ацэнка і самаацэнка, якая скіроўвае вучня да дыялогу. Не атрымаецца добрым урок і без зваротнай сувязі. Без ацэнкі зробленай работы вучань не валодае самым галоўным – яе вынікам і не адчувае радасці поспеху або горычы памылак.

На добрым уроку не павінна быць усяго таго, што не працуе на дасягненне пастаўленых мэтаў (АБАВЯЗКОВА НА МОВЕ ВУЧНЯЎ).

*Надзея Грыгор’ева*

Добры ўрок – гэта:

1. сумесная праца вучняў і настаўніка, бо адзін у полі не воін;

2. канкрэтныя навучальныя мэты, дасягненне якіх можна праверыць у канцы урока, лепш менш ды лепш;

3. грунтоўная падрыхтоўка да ўрока – трэба добра ўяўляць, каго, чаму і як я буду вучыць:

   а) вельмі важна пры падрыхтоўцы да ўрока ўлічваць здольнасці вучняў, іх папярэднія веды па тэме, іх уласны вопыт;

   б) настаўнік павінен сам вельмі добра валодаць тэмай;

4. нельга забываць пра методыку і педагогіку выкладання, бо гэта аснова ўрока;

5. кожная хвіліна ўрока павінна быць карыснай.

Элементы АА спрыяюць добраму ўроку, бо яны даюць магчымасць атрымліваць трывалыя веды, здзяйсняць зваротную сувязь, бачыць вынік, як яго дасягнуць і палепшыць.

*Юлія Набароўская*

Каб правесці добры урок, трэба развітацца са строгім урокам, кожны элемент якога рэгламентаваны, з дакладным аб’ёмам вучэбнага матэрыялу, з рытуаламі і правіламі – і абавязкова дадаць элементы АА. Сёння наша задача – не запхнуць любымі спосабамі вучэбны матэрыял у галаву вучня, а навучыць яго знаходзіць веды, выпрацаваць у яго ўстойлівую матывацыю на набыццё ведаў, уменняў і навыкаў. Вучань павінен кожны ўрок разумець, што ён будзе рабіць і навошта яму гэта трэба. Таму вызначэнне мэтаў – вельмі важны аспект. Немалаважны аспект – гэта змяншэнне стрэсу і страху (а гэта – станоўчая зваротная сувязь і абавязкова праца ў групах ды парах і час на роздум). Кожны ўрок павінен змяшчаць у сабе разынку, нешта, што выклікае здзіўленне, радасць і запомніцца на ўсё жыццё.

*Дзіяна Лявонава*

1. Лічу выкарыстанне элементаў АА на ўроках і выхаваўчых мерапрыемствах вельмі эфектыўнымі. Таму карыстацца імі мэтазгодна. Які ж настаўнік не хоча зрабіць свае ўрокі запамінальнымі, зразумелымі, добрымі?..

2. Абавязкова патрэбна супрацоўніцтва настаўніка з вучнямі, разам крочыць да мэты ўрока, каб не было гульні ў адны вароты. Зараз я адчула гэту розніцу.

3. Ніколі нельга звадзіць урок да крыку, разбору асобы вучня. Нельга дапускаць на ўрок раўнадушша, злосць. Сама назва – добры ўрок – супярэчыць названым паняццям.

Добры ўрок – гэта калі добры настаўнік працуе з добрымі вучнямі на добры вынік.

***Пытанні задавала Наталля Ільініч***

Настаўнік.інфо.
Інфармацыйна-метадычны бюлетэнь для настаўнікаў
Выдаецца ініцыятыўнай групай стваральнікаў сайта ***Nastaunik.info***
Адрас для допісаў: ***nastaunik.info@gmail.com***
Наклад 200 асобнікаў